


№ 31 (59) 22—30 верасня 1993 г. Кошт 5 рублёў



# Аб «эканамічным саюзе» і палітыцы ўладаў Беларусі

## Заява Сойму БНФ «Адраджэньне»

Заняпад эканомікі Беларусі, зьніжэньне ўзроўню жыцьця, рост цэнаў, недахоп тавараў і энергарэсурсаў—гэта перш за ўсё вынік палітыкі намэнклятурнага Вярхоўнага Савету і камуністычнага ўраду. Захоўваецца старая савецкая адміністрацыйная сыстэма ў гаспадарцы, адсутнічае палітыка абароны нацыянальных інтарэсаў. У той жа час дзяржаўная маёмасьць ільготна пераразьмяркоўваецца ў прыватную ўласнасьць намэнклятуры. Урад ня здольны да пераўтварэньняў у інтарэсах народу. Клапоцячыся толькі пра захаваньне ўлады намэнклятуры, ён выступае са штучнымі нібыта эканамічнымі ініцыятывамі. Але гэтыя «ініцыятывы» толькі выяўляюць нядольнасьць кіраўніцтва Беларусі супрацьстаяць іншаземнай імпэрскай палітыцы ды сьведчаць пра змову камуністычнае намэнклятуры Расеі і Беларусі.

Чарговым захадам у інтарэсах ВПК і намэнклятурнай прыватызацыі стала прапанова стварэньня «эканамічнага саюзу» Расеі, Беларусі і Украіны. Пералічваюцца палітычна-эканамічныя ўмовы і чыньнікі інтэграцыі, гаворыцца пра «адзіны рубель» і «адзіны цэнтар», але не прадугледжваецца стварэньня рэальнага цывілізаванага агульнага рынку. Гэта—плян загону назад у імпэрыю пад выглядам эканамічнага ўзаемадзеяньня, захопніцкую сутнасьць якога нават не хаваюць: спачатку прапануецца «зьняцьцё бар'ераў», а потым—поўнае эканамічнае і палітычнае паглынаньне Беларусі ўсходнім суседам ды рэанімацыя імпэрыі. Гэта—спроба пазьбегнуць адказнасьці за правал эканамічнай палітыкі.

Магчымасьць палепшаньня эканамічнага становішча ў нашай краіне пасьля падпісаньня падобнае дамовы—ілюзія. Па-першае, практыка паказала, што Расея не выконвае дагаворных абавязкаў, калі гэта ў яе інтарэсах. Па-другое, «канфедэрацыя з Расеяй» азначала б зьвядзеньне Беларусі да жабрацкага становішча расейскай правінцыі і народныя пакуты ад маскоўскіх крызысаў улады, ад непрадказальнасьці палітыкі, ад імпэрскіх амбіцыяў, што абарочваюцца крывёю, ад увозу злачыннасьці. Па-трэцяе, ніякай эканамічнай стабілізацыі не наступіць: адбудзецца толькі рост беспрацоўя і далейшае раскручваньне інфляцыі.

Да гэтага пляну кампрадорская намэнклятура Беларусі ішла два гады. Мэтадычна разбураючы эканоміку, яна не дапусьціла рынкавых рэформаў, стварыла штучны паліўна-энэргетычны крызыс, развааліла фінансы, не ажыцьцявіла пераходу на ўласную валюту.

Цяпер, значна пагоршыўшы становішча, нашае грамадзтва хочуць запалохаць, выклікаць паніку, паставіць на калені. «Ня трэба сувэрэнітэту», «досыць незалежнасьці»—чуваць зьверху. «У эканамічны саюз», «у калектыўную бясьпеку» «у канфэдэрацыю з Расеяй»—вось лёзунгі, што вызначаюць мэту гэтай антыбеларускай палітыкі. Вось што рэальна стаіць за дэкларацыямі пра нібыта эканамічную інтэграцыю.

Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» ацэньвае такую палітыку як антыдзяржаўную дзейнасьць. Сойм заклікае здаровыя сілы беларускага грамадзтва выступіць супраць палітычнай ініцыятывы трох прэм'ер-міністраў аб стварэньні «эканамічнага саюзу». Пэрспэктыва стабілізацыі эканомікі былых савецкіх рэспублік існуе: гэта безумоўнае захаваньне палітычнай і эканамічнай незалежнасьці, гэта вызваленьне з-пад вайсковае залежнасьці ад Расеі, гэта дэмакратычныя і перш за ўсё рынкавыя пераўтварэнні. Суседнія цэнтральнаэўрапейскія і балтыйскія краіны засьведчылі рэальнасьць і плённасьць такога шляху.

Беларусь павінна разьвіваць дружалюбныя двухбаковыя палітычныя і эканамічныя дачыненьні з усімі сваімі суседзямі і, натуральна, з Расеяй. Але, як паказала гісторыя, як сьведчыць ход і лёгіка цяперашніх палітычных падзеяў, знаходжаньне Беларусі ў любых «саюзах», «аб'яднаньнях» і «садружнасьцях» з Расеяй, у тым ліку і ў СНД, небясьпечнае для нашага дзяржаўнага і нацыянальнага існаваньня.

Аднак Сойм зазначае, што галоўную небясьпеку для эканомікі і незалежнасьці Беларусі нясе ня гэтулькі імпэрская палітыка адпаведных антыдэмакратычных колаў Расеі, колькі кампрадорская арыентацыя і дзеяньні беларускай посткамуністычнай намэнклятуры і яе ўладных структураў—нелегітымнага Вярхоўнага Савету і ўраду. Стварэньне эканамічных цяжкасьцяў і спэкуляцыя на іх—вось сутнасьць яе палітыкі.

## Хворая на «ліхаманку»

Няхватка паліва прывяла да ліхаманкі ў працы віцебскай «хуткай дапамогі».

Ранкам 15 верасня з 25 машын шэсць не выехалі на выклікі. Увечары стаяла ўжо 12 «хуткіх». А на наступны дзень горад абслугоўвала толькі дзесяць брыгад.

Пасля аператыўнага ўмяшальніцтва ўладаў бензін знайшлі.

Надоўга?

С. Ю.



З поўным поспехам прайшоў у Віцебску канцэрт расійскага барда А. Разенбаума.

## Мы—беларускамоўныя

Нашай рэдакцыяй скіраваныя прапановы ў міністэрства інфармацыі аб змяненні моўнага статусу газеты. Цяпер «Выбар» не толькі фактычна, але й фармальна будзе беларускамоўным выданнем.

Наш кар.

## Падтрымка

Абласное аб'яднанне прафсаюзаў вырашыла аказаць дапамогу ў 300 тысяч рублёў жыхарам Мёршчыны, якая зведала жахі паводкі. Ягонае кіраўніцтва рэкамендавала прафкамам, сябрам прафсаюза адгукнуцца на бяду, пералічыць грошы ахвярам стыхіі.

Ю. С.

## Падпісная кампанія

**Федэрацыя прафсаюзаў працягвае збор подпісаў пад прапановай аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савета.**

Напрыклад, на віцебскім станкаінструментальным заводзе імя С. Кірава ейную ідэю новых выбараў падтрымалі болей 900 чалавек, на аршанскім «Чырвоным барацьбіце»—830 сяброў прафсаюза. Актыўна збіраюцца подпісы й на іншых прадпрыемствах машынабудавання.

—Людзі на іх найболей зазналі цяжкасці цяперашняй эканамічнай сітуацыі,—сказаў адзін з супрацоўнікаў абласнога аб'яднання прафсаюзаў у гутарцы з нашым журналістам,—пагэтаму й вынікі акцыі ФПБ там большыя, чым у іншых галінах гаспадаркі Віцебшчыны.

Ю. ТУТЭЙШЫ.

## Музэй без «Спадчыны»

Як паведамлялі раней, у віцебскім музэі чакалася прызначэньне новага дырэктара зь ліку былых функцыянэраў кампартыі. Так яно й здарылася, на пасаду прызначаны былы супрацоўнік абкама КПБ сп. Севярын. У час падпіскі новы дырэктар выкрасьліў са сьпісу беларускі гістарычны часопіс «Спадчына».

Альгерд.

*У мясцовых філіях*

## 8 верасня—перамога і ў Віцебску

Мы ацэньваем святкаванне ў горадзе Дня беларускай вайсковай славы як перамогу дэмакратыі,—адзначыў на пасяджэнні Віцебскай Рады БНФ яе старшыня М. Паўлаў.—Спробы антыбеларускіх сілаў перашкодзіць святу аказаліся марнымі, без парушэння законаў мы правялі імрэзу на пляцы Волі.

М. КАЛІНОЎСКІ.

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

Ухвала Сойму БНФ, «Быў віцяблянін на Сінаі», «Прытчы» А. Шульмана, бясплатныя аб'явы і г. д.

## З двух чалавек зрабілі трох асоб

Старшыня Менскага гарадскога суда М. Ардзяка апратэставаў пастанову нарсуда Маскоўскага раёна сталіцы аб накладанні штрафу на галоўных рэдактараў лёзненскага «Сцяга перамогі» і віцебскага «Выбара».

Суддзі праігнаравалі тэлеграму журналістаў з паведамленнем, што апошнія—дарэчы, адказчыкі па вядомай справе «І. Авін супраць газетчыкаў»—не могуць з'явіцца на судовыя паседжанні па ўважлівых прычынах. І за «непавагу да суда і нляўку» з галоўных рэдактараў «Сцяга перамогі» В. Магільнага, «Выбара» і (?) Б. Хамайды вырашылі спагнаць па 500 рублёў. Не заўважыўшы, што Б. Хамайда і галоўны нашага тыднёвіка—адна асоба.

Скарга аднаго з адказчыкаў на такія дзеянні Феміды аказалася не лішняй. І абгрунтаванай, як палічыў М. Ардзяка.

Ю. С.

## СВАЁ І ЧУЖОЕ

### Фрагменты спрэчак, цытаты і проста думкі

На Беларусі і зараз, калі афіцыйна гаворыцца пра будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, слову «нацыяналізм» надаецца рэзка адмоўны сэнс. Гэтага слова часам палохаюцца нават і самі прыхільнікі беларушчыны. Ніжэй пададзеныя цытаты з замежных тлумачальных слоўнікаў яскрава паказваюць, у якой ступені адрозніваюцца нашыя, выгадаваныя камуністычнай прапагандай, уяўленні аб натуральных з'явах і працэсах ад тых, якія існуюць у навакольным свеце (пераклад слоўнікавых артыкулаў з замежных моў мой).

**1) моцная адданасць сваёй нацыі; патрыятычныя пачуцці, намаганні, прынцыпы. 2) рух да палітычнай (эканамічнай і інш. незалежнасці) у краіне, якая знаходзіцца пад кантролем іншай дзяржавы).**

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## Усё для чалавека

У кватэры віцяблянаў цяпла ці́чэ не далі. З-за некамфортнай тэмпературы ў жытле людзі хварэюць на прастуду. Гарадскія ўлады, пэўна, вырашаюць, што эканомней—плаціць за энерганосьбіты ці за лісткі непрацаздольнасці.

М. ЦЮПАТКА.

**Старонкі падрыхтаваны Гарадоцкай радай ТБМ імя Ф. Скарыны, Гарадоцкай філіяй БСДГ.**
Рэдакцыйная рада: Л. Гаравы, М. Вярціхоўская, М. Краўцоў, А. Якушаў. Тэлефон рады **2-17-91** (пасля 18 гадзін).
Адрас для карэспандэнцыі: **211540 г. Гарадок, вул. Гагарына 30 б, кв. 16, Л. Гараваму.**
Грошы для падтрымкі выдання магчыма дасылаць на рахунак Гарадоцкай рады ТБМ імя Ф. Скарыны № 000700160 у Гарадоцкім аддзяленні Белаграпрамбанка.
Наступны нумар выйдзе пры наяўнасці фінансавых сродкаў.




# ВЕТРАЗЬ

## ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫЯ СТАРОНКІ ГАРАДОЦКАГА РАЁНА

### Максім БАГДАНОВІЧ

Народ, Беларускі Народ!
Ты—цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою усягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі,—
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Увесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

## Слова рэдакцыі

**Шаноўны чытач! Рэдакцыя «Выбара» дапамагла дэмакратычным сілам Гарадоччыны выдаць старонкі «Ветразя». Вы трымаеце ў руках першы нумар «Ветразя», які мы разлічваем зрабіць больш-менш перыядычным. Галоўная мэта старонак—знаёмства з культурай і гісторыяй раёна: асвятленне актуальных праблем нацыянальнага Адраджэння, дзейнасці сацыял-дэмакратычнага руху Беларусі. Мы будзем імкнуцца асвятляць праблемы нашага крызіснага часу, каб крышку зменшыць іх цяжар. У планах рэдакцыі сустрэча з цікавымі людзьмі, лёс якіх звязан з Гарадоччынай.**

**На нашых бачынах Вы знойдзеце літаратурныя творы, якія не вельмі добра вядомы, але добра адлюстроўваюць імкненне душы беларуса.**

**Мы разлічваем рабіць старонкі цікавымі вольным людзям раёна, садзейнічаць іх згуртаванню дзеля ўсталявання дэмакратычнай прававой дзяржавы—Рэспублікі Беларусь. Нашым чытачом будзе той, «хто ўмее сэрцам чуваць» вялікую трагедыю Бацькаўшчыны і гатовы працаваць дзеля Адраджэння.**

**Жыве Беларусь!**

### Ніл ГІЛЕВІЧ

## ЗВАРОТ

Таварыш! Рускі і ўкраінец,
Яўрэй, татарын і паляк!
Мы ўсе ў адной жывём
краіне,
З нас кожны кожнаму—
зямляк.
Я да цябе звяртаю слова:
Ты паглядзі на тых між нас,
Каму дзяржавы нашай мова—
Кусок руды, а не алмаз.
Ты бачыш, як яны злуюцца—
Стратэгі гібельных інтрыг?
І плодзяць стосы рэзалюцый,
І падымаюць лямант-крык.
Але чаго?—каб хто спытаўся!
Не па нутру ім, што народ
З уласнай мовай
не расстаўся
І не аддаў яе на звод.
Лічылі ўжо, што задушылі
Яго правы, яго пратэст,
Што ўжо амаль і завяршылі
Абез'язычання працэс.
А мова—вось: жыве, жывая!
І набірае сілу-моц.
І нас—душу з душой—яднае,
Як берагі надзейны мост.
І не пагроза мовам іншым,
Што тут гучаць
здавён-здаўна...
І ўсё ж мой кліч, на жаль,
не лішні,
І шлю яго я не здарма.
Таварыш! Хто б ні быў
ты родам,
Якой ні быў бы ты крыві,
Ты лёс звязаў з маім
народам,
Таму—як СЫН яго жыві!

# Прытуліся да роднага слова




Дзесьці гадоў пяць назад, калі толькі пачынаўся працэс нацыянальнага Адраджэння, шукаў адказ на пытанне: «Як хутчэй навучыцца роднаму слову?» За плячыма былі рускамоўныя школа і інстытут, а вакол бязмежнае рускамоўнае асяроддзе. Адзін свядомы беларус параіў: перш за ўсё трэба кожны дзень чытаць беларускія выданні і не саромецца весці гутарку на роднай мове.

З таго часу адбыліся глабальныя змяненні—рухнула імперыя і абвешчана незалежная дзяржава Рэспубліка Беларусь. Але ў свядомасці грамадства адчуваецца моцны ўплыў «саўковасці». Ён найбольшы тут, на Беларусі, дзе «лепш» за ўсіх працавалі над зліццём нацый у адзіны савецкі народ, над пазбаўленнем народа сваіх гістарычных каранёў. Антычалавечыя вынікі антынацыянальнай палітыкі відавочны: калі нашы суседзі па камуністычнай казарме абудзілі ў сябе патрыятызм-любоў да радзімы і будуюць свае незалежныя дзяржавы, то на Беларусі ўсё яшчэ чуваць шавіністычныя галасы з тугой аб былым Саюзе.

Разважаючы аб прычынах гэтага становішча, прыходзіш да думкі, што па-ранейшаму сапраўдная гісторыя Беларусі-Літвы мала вядома грамадству, яно ўсё яшчэ знаходзіцца ў палоне камуністычных міфаў, яшчэ слухае сваіх сляпых павадыроў. Бачацца дзве прычыны: адсутнічае неабходная дзяржаўная прапаганда гісторыі сярод грамадзян і вялікая абыякавасць апошніх да самастойнага авалодання ведамі.

Часам людзі, якія па свайму прафесійнаму абавязку павінны добра арыентавацца ў перыядычных выданнях Бацькаўшчыны, паказваюць некампетэнтнасць. І таму вялікія рэзервы ў абуджэнні гістарычнай памяці суграмадзян бачу ў тым, каб мэтанакіравана прапагандаваліся беларускія выданні, каб штодзённа яны прыходзілі ў кожны дом. Гэта справа не толькі сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны, але і настаўнікаў, культработнікаў. Пераход на квартальную падпіску адкрывае магчымасць часцей агітаваць за роднае слова, праз якое да нас ідуць веды па беларускай гісторыі і культуры, абуджаюцца патрыятычныя пачуцці.

Аналіз апошніх падпісных кампаній паказвае, што ў абсалютнай большасці педагогі нацыянальную прэсу не выпісваюць, што большасць беларускамоўных выданняў у раёне выпісваецца бібліятэкамі па лініі аддзела культуры. Адзначу, што на Гарадоччыне, больш семідзесяці бібліятэк і больш пяцісот настаўнікаў. Вынікі ж падпіскі на другое паўгоддзе 1993 года наступныя: часопісы «Беларусь»—29/19/, «Бярозка»—47/21/, «Мастацтва»—6/1/, «Полымя»—34/29/, «Спадчына»—54/36/, газеты «Літаратура і мастацтва»—51/36/, «Культура»—48/30/, «Наша слова»—12/3/, «Чырвоная змена»—56/7/. У дужках—колькасць выданняў, атрымліваемых сельскімі бібліятэкамі.

Вышэйназваны друк разлічаны на пэўную катэгорыю чытачоў, але без яго выкарыстання складана працаваць у нацыянальнай школе, весці асветніцкую работу. Часопіс «Беларусь»—нацыянальнае выданне, якое грунтоўна дае матэрыялы аб нашай дзяржаве. «Бярозка»—часопіс для беларускіх падлеткаў, матэрыялы друкуюцца без уліку рэформы беларускай граматыкі 1933 г. «Мастацтва» інфармуе аб сучасным мастацтве, друкуе добрыя рэпрадукцыі, карысныя настаўнікам выяўленчага мастацтва. «Полымя» дазваляе ведаць навінкі мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. У «Спадчыне», унікальным часопісе для гісторыкаў, большасць матэрыялаў даецца з першакрыніц, са спецсховішч. «Культура»—добры дапаможнік для работнікаў культуры, змяшчае шмат артыкулаў аб культурным жыцці Беларусі. «Наша слова»—штотыднёвік ТБМ прыдатны перш за ўсё для тых, хто жадае палепшыць сваю моўную культуру. «Чырвоная змена»—газета для моладзі і тых, хто займаецца выхаваўчай работай. «Літаратура і мастацтва»—выданне культурнай эліты, якая руплівa працуе для нацыянальнага Адраджэння, дзеля рэальнай незалежнасці Беларусі.

У бягучай падпісной кампаніі пажадана, каб адбыліся зрухі ў цікаўнасці грамадзян да роднага слова. Аб тым, што яны магчымыя, сведчыць найбольшая папулярнасць дэмакратычнай «Народнай газеты». Яе выпісваюць у раёне 2318 сем'яў, удвая больш, чым рускамоўную «Советскую Белоруссию». Відавочна, што перавага ўзрасце, бо кошт «Советской...» значна вышэй «Народнай газеты». Трэба заўважыць, што цана беларускіх выданняў, асабліва спецыяльных, невялікая—300-500 р., што не вельмі падрывае сямейны бюджэт.

Галоўнае—каб у кожнай сям'і бацькі адчувалі сябе грамадзянамі Беларусі і перадавалі дзецям у спадчыну павагу да роднай зямлі. Калі гэта адбудзецца, то з кожным днём усё больш чытачоў будзе прытуляцца да роднага слова, пашыраць свае веды аб слаўнай і трагічнай гісторыі Беларусі-Літвы.

**Л. ГАРАВЫ.**

# Фермер ці аднаасобнік?

Сёння вёска ў даволі складаным становішчы. Калгасная сістэма за шэсць дзесяцігоддзяў існавання не здолела накарміць народ, каб было прадуктаў у дастатку і выбар быў шырокі. Відавочна неабходнасць рэформ у сельскай гаспадарцы. Але ідэя новых адносін на зямлі, а дакладней, вяртання да спадчыннага гаспадарання з магчымасцю куплі-продажу зямлі, з вялікімі цяжкасцямі знаходзіць сваіх прыхільнікаў на вёсцы.

Чаму так? Людзей, якія адмовіліся ад калгаснага ладу, даволі хутка «па-замежнаму» назвалі фермерамі. І адразу пачалі пытацца: «Ну-у, накорміш краіну, фермер?». Але айчынны і замежны фермер—гэта зусім розныя паняцці, зусім розныя станы гаспадарання. Дакладна было б назваць новых Гаспадароў аднаасобнікамі. Яны ў асноўным аднаасобна вядуць сельскагаспадарчую вытворчасць, абмежаваны ў сродках, сельскае грамадства вельмі часта адмоўна ставіцца да іх. Але фермеры ёсць, яны становяцца гаспадарамі, набываюць цяжкі вопыт аднаасобнага існавання. У большасці іх ёсць моцнае жаданне стаць гаспадарамі свайго лёсу.

Зімой 1992 года, калі краіна толькі ўступіла ў гіперінфляцыю і ніхто не здолеў прагназаваць, што праз паўтара гады месячнай зарплаты ў 60 тысяч будзе толькі-толькі хапаць, каб звесці канцы з канцамі, пачаў афармляць дакументы на фермерства Уладзімір Сысоеў. За плячыма было дваццаць гадоў жыцця, жонка і двое малых дзяцей, невялікая хатка, бестурботнае жыццё ў калгасе: наперадзе—невядомае існаванне гаспадара-пачаткоўца. Але выбар быў зроблены, жаданне самастойнага жыцця было самым моцным жаданнем.

На першых кроках маладога чалавека падтрымаў старшыня к-са імя Мічурына Уладзімір Фёдараў, і калектыўная гаспадарка выступіла гарантам вяртання першапачатковых крэдытаў. Старшыня і зараз гатовы падтрымаць працавітых калгаснікаў у самастойным гаспадаранні, але жадаючых пакуль няма. Сысоеў атрымаў 50 га зямлі ў спадчыннае карыстанне, набыў 10 племянных кароў, тое-сёе з тэхнікі і пачаў самастойна гаспадарыць. Разлічваць на дапамогу родзічаў або яшчэ на што-небудзь не прыходзілася. Трэба ўспомніць лета 1992 года—самае спякотнае за апошнія дзесяцігоддзі. І хоць карміў сваіх кароў як трэба, але малака яны давалі, як козы—па 3—5 літраў. Аднак праца на зямлі дала плён і з крэдытамі разлічыўся датэрмінова. Толькі зразумеў: малочны напрамак у гаспадарцы не атрымаецца і зараз мае намер заняцца свінагадоўляй.

Наша гутарка праходзіла, калі на небе свяціла поўня і майстры закончылі шкліць вокны ў цагляным доме Сысоева. Завяршаўся звычайны клапатлівы фермерскі дзень. Амаль увесь ён быў аддадзены на тое, каб вырашыць праблему з палівам для ўборачнай. Урэшце былі атрыманы дзве тоны саляркі за 400 тысяч рублёў і цяпер можна быць спакойным, што збожжа і бульба будуць убраны. Толькі многа часу раней адняла патрэбнасць знайсці гарантаў новых неабходных крэдытаў, быццам не можа быць гарантыяй слова гаспадара, які мае маёмасць і будуе дом для сваіх дзяцей.

Відавочна, што пры абсалютнай перавазе ў матэрыяльнай базе калгаснай сістэмы для маладых фермераў неабходны дакладныя гарантыі дапамогі тэхнікай. Зразумела, не за «дзякуй», а па абгрунтаваных расцэнках, у пэўныя тэрміны, пры ўзаемнай адказнасці. Перш за ўсё пры зернеўборачных работах, бо зараз фермеру набыць камбайн за 25 млн. для тыдня працы немагчыма. А так усё па-ранейшаму вызначаюць узаемаадносіны з калгасным кіраўніцтвам. Добрыя—і дзякуй Богу, а калі кепскія, то трэба, як кажуць, з'есці жалезнага бобу, каб выстаяць.

Сёння вельмі часта ад розных калгасных начальнікаў можна пачуць скаргі на рост цэн, але Уладзімір на неадпаведнасць цэн не скардзіўся. Ён выказваў упэўненасць, што пры аднолькавых закупачных цэнах для калгасаў і фермераў, зямля яго пракорміць, а ён вырасціць сваіх дзяцей сапраўднымі гаспадарамі. Малады фермер ніколі не дазволіць сабе страціць да трэці ўраджаю, як часта адбываецца ў калгасах і саўгасах, не пашкодзіць зямлю неразумным гаспадараннем.

Пачатак фермерскай справе пакладзены. Можна спадзявацца, што і праз дзесятак гадоў на зямлі будзе рупліва працаваць фермер з падрослымі дзецьмі. Так паступова аднаасобнік стане цывілізаваным фермерам, які будзе упэўнены, што здольны спаўна накарміць краіну.

**А. ЯКУШАЎ.**

# Не накручвайце на поўную шпулю!

Мы жывём у час нявысветленых з'яў. Няспынны рост цэн і адпаведна падзенне ўзроўню жыцця для нашага мозга, які дзесяцігоддзямі назіраў: цукар—0,84 р., гарэлка—4,12, кілбаса—5,60—вельмі шкодная з'ява. Галава спажыўца да высвятлення: як з'яўляюцца дзікія цэны—не прыстасавана. Але і гутаркі з загадчыцамі крам паказалі, што яны свой мозг падобнымі разважаннямі не абцяжарваюць. З размоў склалася ўражанне, што мы жывём у перавернутым не адзін дзесятак разоў свеце, так што і зараз не разабрацца, дзе неба, дзе зямля. Падумалася, што рынкавая эканоміка, аб якой марылі нашы камуністычныя кіраўнікі падчас апошніх выбараў, пакінула толькі невялічкі капыток, бо ніякага прагназавання ўзроўню попыту і спажывецкіх магчымасцей не вядзецца, а спажывец задавальняецца чым бог паслаў.

Гэта не дзіва, бо як быў наш гандаль напаўпрыватным, так і застаўся. І толькі нашы дзяржаўныя кіраўнікі могуць у Кітаі рабіць вялікія вочы ад таго, што ў камуністычнай краіне амаль увесь гандаль прыватны.

У мяне было вялікае жаданне разабрацца з біяграфіяй хаця б.. аднаго цэнніка. Толькі гутаркі з начальствам райспажыўсаюза дазволілі крышку разабрацца, адкуль усё скача.

Слухайце, спадарства! Свініна вышэйшага гатунку, якую сталі здаваць комплексы, калгасы, фермеры пасля 26 жніўня, напаўняла іх кішэні на 1322 рублі за кг. Пасля таго, як забойны цэх падрыхтаваў мяса для продажу, то яно ўжо стала па 1910 рэ. А потым яго прывезлі ў краму і выставілі для продажу, то ўжо яно—2230. Ну, не будзем здзіўляцца, што костка з кавалачкам мяса і кавалак мяса па адной цане. Бо гэта выдумка буржуеў—разбіраць тушу да дзесятка гатункаў. Нам такія цяжкасці ў забойным цэху не патрэбны. У нас проста ёсць патрэбныя людзі.

Прашу здзіўляцца наступнаму. Адзін кілаграм мяса за суткі знаходжання ў райспажыўсаюзе набывае цану 908 рублёў, а за тыя восемь-дзевяць месяцаў, што гадуецца парсюк, сельскі працаўнік атрымлівае 1322 р. Як кажуць, ну-у вельмі смешныя цэны. Адразу так і хочацца крыкнуць: «Шаноўныя сяляне! Не вязіце сваё свінчо на бойню, яно становіцца залатым. Лепш спажывец прыедзе да вас і зробіць вас багачом!» Але крычаць не трэба. За 70 год камуністычнай траскатні ўсе дэцыбелы выкарыстаны. Проста хочацца параіць кіраўнікам Белспажыўсаюза, бо ад іх ідуць накруткі ў 44% і 17%: «Рабуйце, рабуйце, але не абдзірайце як ліпку».

Для грамадства выйсце з гэтага становішча ёсць. Аднак шлях даволі цяжкі, тым болей, што большасць хварэе на млявасць і абыякавасць. Але для асобных грамадзян параду дам. Не пашкадуйце часу і збярыцеся за мясам у Віцебск, дзе яно танней на 500—600 рэ, бо менш накрутак. Атрымаеце як матэрыяльны прыбытак, так і маральнае задавальненне. Толькі едзьце хутчэй, пакуль мяса за нафту не аддалі Расіі, нашаму самаму вялікаму сябру. Разумеючы, што ў гандлі вельмі многа людзей круціцца вакол мяса, папрасіў бы: «Вы час ад часу не накручвайце на поўную шпулю».

**Мікола ГАРАДОЦКІ.**



**Алесь КАСЦЕНЬ**

## ПРАДЧУВАННЕ ЗЯМЛІ

Ад Бярэсця да Ршы,
Ад Браслаўя да Гомля
На пагорках пустых
І ў нізінак гніллі
Беларус-гараджанін
Спіну сваю ломіць—
Урабляе кавалак
Прыдатнай зямлі.

Ах, браткі-беларусы,
Бетонныя вуллі
Як вам хутка абрыдлі—
І зноў да зямлі?
Тут прычына не ў тым,
Што пра голад пачулі,
І не ў тым, што буцвеюць
Калгасаў палі.

У душу пакалення,
Што выгнана з вёсак
Працаднямі пустымі
І здзекам сталіц,
Як мясцовая рунь,
Шуганула-ўзнялося
Прадчуванне-жаданне
Уласнай зямлі.

Дзе ты сам гаспадар,
І рашае твой голас,
Дзе абсяг твой нярушны,
Таўсцеюць камлі.
Памятаеце, Колас
Так сказаў красамоўна
У «Новай зямлі».

Дык звяртайся да Бога,
Вясковец і месціч,
Вартаўнік і вучоны,
І ласкі малі:
Апраўдаецца хай,
Не пракоціцца ўлегцы
Даравалнае нам
Прадчуванне зямлі.

## Чакае каштоўны прыз

**Аб'яднанне «Зялёная альтанка», страхавая кампанія «НІВА», Гарадоцкая філія Грамады выступаюць арганізатарамі агляду на лепшае гаспадаранне. Ягоная мэта—выяўленне лепшых гаспадароў агароднiцтва, прапаганда рацыянальных спосабаў гаспадарання, стварэнне банка насеннага матэрыялу. У аглядзе можа прыняць удзел любы жыхар раёна, які папярэдне паведаміць аргкамітэту аб удзеле і да 10 кастрычніка прадставіць матэрыял для агляду.**

**Агляд праводзіцца па наступных відах:**

**1. Самыя вялікія экземпляры бульбы і морквы, капусты і кабачкоў. Прызёры вызначаюцца па найвялікшай масе.**

**2. Разнастайнасць рэдкіх раслін. Улічваецца колькасць відаў на ўчастку, іх прадстаўленне на аглядзе.**

**3. Арыгінальнасць нарыхтовак на зіму. Прадстаўляюцца нарыхтоўкі ў закрытым выглядзе з указаннем рэцэпта.**

**Прызёры адзначаюцца матэрыяльнымі прызамі. Самага лепшага ўдзельніка чакае каштоўны прыз.**

**Адначасова прапануецца правесці выставу асенніх кветак, пачаць ствараць банк інфармацыі аб насенным матэрыяле для агародніцтва.**

**Агляд адбудзецца 10 кастрычніка ў ГДК г. Гарадка. Пачатак імпрэзы ў 11 гадзін.**

**Заяўкі аб удзеле падавайце па тэлефонах: 2-29-40—Галіне Лявонцьеўне Сталяровай, 2-17-74 —Тамары Мікалаеўне Рабавай.**






# ДЭМАКРАТЫЯ: НЕАБХОДНАСЦЬ І РЭАЛЬНАСЦЬ

Наменклатурныя сродкі інфармацыі зрабілі ўсё магчымае, каб у масавай свядомасці стаў замацоўвацца зняважлівы сэнс слова «дэмакрат». Праўда, сучаснай наменклатуры не хапіла цынізму, каб надаць абразлівае гучанне і паняццю дэмакратыя. У «саўковай» дэфармаванай свядомасці магчыма ствараць зусім неверагодныя ўяўленні. Тым больш, што сістэма адукацыі не вельмі заахвочвала самастойнасць мыслення, будучы вернай служкай камуністычнай мэтазгоднасці. У жыцці людзі свабоднай думкі заўсёды прыціскаліся партыйна-бюракратычнай машынай. Кампартыя абсалютызавала ўладу ў сваіх структурах, выхавала некалькі пакаленняў у палітычным невуцтве, пазбавіла грамадства механізмаў выказвання палітычнай волі.

У свой час апошнія лідэры КПСС зразумелі пачварнасць створанай таталітарнай сістэмы, яе паражэнне ў эканамічным спаборніцтве з заходнім светам, але цывілізавана рэфарміраваць сістэму не здолелі. Відавочным стаў недахоп палітычнай, ды і не толькі палітычнай, культуры. Але многіх страт, упэўнены, магчыма было пазбегнуць, калі грамадства было б палітычна адукаваным. Толькі гэта адукацыя была не патрэбна абсалютнай большасці грамадзян, бо ўсе пытанні іх жыцця вырашаліся партыйнымі бюро. Калі было інакш, то зараз не было б зняважлівага стаўлення да паняццяў «дэмакратыя», «дэмакрат», не існавала б нелегітымнай улады.

Ва ўсім цывілізаваным свеце, які забяспечыў высокі дабрабыт сваіх грамадзян, катэгорыя «дэмакратыя» адна з самых паважаных. Цывілізаванае грамадства цвёрда лічыць сябе прыхільнікамі дэмакратычных форм кіравання. За межамі былога СССР добра разумеюць, што для чалавецтва самымі лепшымі формамі дзяржаўнага будаўніцтва з'яўляюцца дэмакратычныя. І таму ёсць неабходнасць супаставіць, што неабходна для дэмакратыі і што атрымалася ў рэальнасці.

Перш за ўсё трэба высветліць, што мы разумеем пад гэтым паняццем. Вельмі часта мы спрачаемся на розных мовах, дастаткова нагадаць такія паняцці, як патрыятызм і нацыяналізм або шавінізм і інтэрнацыяналізм. У слоўніку Ожагава: «Дэмакратыя— палітычны лад, заснаваны на прызнанні прынцыпаў народаўладдзя, свабоды і праў грамадзян. Дэмакрат —прыхільнік дэмакратыі». З гэтага азначэння зразумела, што ўяўляе сабой дэмакратыя і каго лічыць дэмакратам. Відавочна, што адукаваны чалавек не будзе зняважліва вымаўляць: «Дэмакрат». Крытычны сэнс слоў болей падыходзіць для ацэнкі дзейнасці сучасных уладных структур, якія пад час апошніх выбараў кляліся, што любяць дэмакратыю, але калі авалодалі ўладай, пра клятвы забыліся.

Спадзяюся, чытачы разумеюць, што дэмакратычны лад пабудаваны на прынцыпах народаўладдзя, калі самі грамадзяне альтэрнатыўна выбіраюць уладу, калі ў іх ёсць механізмы кантролю за ўладай, калі яны валодаюць эканамічнымі, палітычнымі, культурнымі свабодамі й ўсе роўныя перад законам. Зразумела, гэтыя прынцыпы не працавалі ў гады камуністычнага панавання. Ва ўладзе знаходзіліся тыя, каго прызначыла вузкае партыйнае кола. Выбарчыя камісіі, пад рытуальныя сто... грам, засведчвалі, што 99,99% выбаршчыкаў падтрымліваюць дэпутатаў, прызначаных партыйнымі камітэтамі. Адсутнічалі законы, якія дазвалялі б грамадзянам ствараць палітычныя аб'яднанні. У Канстытуцыі быў замацаваны артыкул аб нябесным прызначэнні КПСС. Усе грамадзяне павінны былі працаваць на прадпрыемствах дзяржаўнай уласнасці, выконваць вытворчыя планы партыі. Пад прыкрыццём ідэі зліцця нацый у савецкі народ, мэтанакіравана вынішчаліся патрыятычныя пачуцці беларусаў, украінцаў, летувісаў і г. д., асіміляваліся нацыянальныя культуры. У спрэчках паміж грамадзянамі і ўладай (непасрэдным кіраўніцтвам, супрацоўнікамі міліцыі, партыйнымі бонзамі) перамога звычайна была на баку ўладароў. У народзе хадзіла прымаўка: «Той праў, у каго больш праў».

Пры адсутнасці дэмакратычных свабодаў таталітарны лад усё больш прайграваў дэмакратычным краінам Захаду. Толькі штогадовыя мільярдныя долaравыя даходы ад нафты, газу ды йншай сыравіны дазвалялі ствараць ураджанне аднoснага дабрабыту ў сталіцах, абласных гарадах, бо там асядалі асноўныя датацыі з бюджэту. У свой час Ленін заўважыў, што галоўнае для перамогі новай фармацыі—гэта большая прадукцыйнасць працы, бо толькі тады сацыялізм пераможа капіталізм, калі створыць больш высокую аддачу ад працы. На 70-м годзе кастрычніцкага перавароту яна ў прамысловасці склала 50%, а ў сельскагаспадарчай вытворчасці—22% ад прадукцыйнасці працы ў ЗША. Адзін амерыканскі фермер даваў столькі прадукцыі, колькі пяць нашых калгаснікаў. Зусім розныя ўзроўні жыцця склаліся ў краінах-суседзях, падзеленых межамі сацыялістычнага ладу: у ФРГ і ГДР, Паўднёвай Карэі і КНДР, у Фінляндыі і Карэліі. Нават кубінская эміграцыя ў Фларыдзе жыве значна лепш, чым кастраўская Куба. Усё гэта шырока вядомыя факты. Зразумелым стаў усеабдымны крызіс камуністычнай сістэмы, які ад грамадства быў прыкрыты штодзённай прапагандай моцнай ідэалагічнай машыны. Стала бачна, што абяцанкі бальшавікоў даць: зямлю— сялянам, фабрыкі—рабочым, уладу—Саветам, мір —народам, так і засталіся абяцанкамі-цацанкамі для іх нашчадкаў. Стала ясна, што некантралюемая ўлада, страціўшы стымул для развіцця, паразітуе на працы народа. Само грамадства ператварылася ў натоўп, якім магчыма лёгка маніпуліраваць, але ад якога нельга чакаць высокапрадукцыйнай працы. Наспела неабходнасць дэмакратычных рэформ, пабудовы прававой дзяржавы. Гэта стала неабходнай умовай абуджэння народа, сярод якога ўсё больш распаўсюджваліся апатыя і алкагалізм.

(Заканчэнне будзе)

**Леанід ҐАРАВЫ.**

# Ці раяцца Саветы?

Парадокс нашага часу заключаецца ў тым, што мы маем уладу дзяржавы, якая знікла. Савецкая наменклатура, якая ўзяла ўладу ў свае рукі пад час апошніх выбараў, і сёння разглядаецца ПКБ вяршыняй народаўладдзя. Але практыка сведчыць, што інтарэсы савецкай улады і народа—цяжка параўнальныя рэчы. Да таго ж абяцанкі цяперашніх дэпутатаў вывучаць патрэбы выбаршчыкаў дзейнічаць у духу галоснасці, так і засталіся словамі.

Гарадоцкая філія Грамады, якая ўтварылася праз год пасля выбараў, зрабіла шэраг захадаў, каб у нас выконвалася дзеючае заканадаўства аб галоснасці дзеянняў мясцовай улады, справаздачнасці дэпутатаў перад выбаршчыкамі. Нашы прапановы грунтаваліся на падставе Закона «Аб мясцовым самакіраванні», паводле якога Саветы павінны дзейнічаць галосна і з улікам грамадскай думкі. А таксама арт. 22 Закона «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета...»: «Народны дэпутат перыядычна, не меней двух разоў у год, абавязаны мець справаздачу перад выбаршчыкамі акругі...»

Але сучасныя ўлады глухія да гэтых патрабаванняў заканадаўства. Пасля неаднаразовых вусных і пісьмовых зваротаў да выканаўчых улад горада і раёна, звярнуліся ў пракуратуру, якая мусіць наглядаць за выкананнем законаў. Атрыманы 16 кастрычніка 1992 года адказ варты ўвагі. Пракурор раёна В. Струкаў піша: «...мною сделано напоминание председателю Городокского городского Совета народных депутатов Николашину С. П. о необходимости активизации работы районного (??) Совета народных депутатов в плане ежегодных отчетов депутатов перед избирателями. Николашин С. П. сообщил, что в конце нынешнего года во всех местных Советах района (??) будет осуществляться работа по отчету депутатов перед своими избирателями.»

Не будзем звяртаць асаблівую ўвагу на тое, што адказ дадзены на мове замежнай краіны, што зняважаны нашы патрыятычныя пачуцці самой пракуратурай, якой не грэх паназіраць за выкананнем Закона аб мовах. Чаго ў нас толькі не бывае! Але з таго часу прайшоў амаль год. Як «осуществляется» дадзеная работа мясцовай улады, лепш ацаніць выбаршчыкам.

**Л. АНТАНОВІЧ.**

# Партыя ўзважаных падыходаў

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада (БСДГ)—левацэнтрысцкая партыя парламенцкага тыпу, партыя гуманістычных традыцый і прынцыпаў, партыя, якая арыентуецца на агульначалавечыя каштоўнасці, партыя нацыянальнай згоды і грамадзянскага міру, абароны правоў і свабод чалавека, партыя адраджэння нацыянальнай свядомасці, павагі да правоў іншых нацыянальнасцяў, партыя узважаных падыходаў, партыя рэформаў, цывілізаваных і негвалтоўных метадаў дзейнасці, партыя дыялогу з усімі дэмакратычнымі сіламі.

Мэтаю Грамады з'яўляецца стварэнне сацыяльна-эканамічнай сістэмы, якая забяспечыць чалавеку заможнае, поўнае сэнсу жыццё на аснове наступных прынцыпаў:

—**свабоды**, якая разумеецца як права чалавека самому прымаць рашэнні, якія не чыняць шкоды іншым людзям, як права грамадства і народа самім вызначаць свой лёс;

—**роўнасці**, якая грунтуецца на прызнанні таго, што ўсе людзі роўныя ў сваіх правах і не павінны размяжоўвацца паводле класавых, расавых, нацыянальных і рэлігійных адзнак;

—**салідарнасці**, якая ажыццяўляецца праз супрацоўніцтва паміж асобнымі грамадзянамі і рознымі групамі грамадзян і аднаўляе гвалт у дасягненні сацыяльных і палітычных мэтаў;

—**дэмакратыі**, якая прызнае крыніцаю ўлады грамадзян і народ;

—**прыярытэту права**, калі кіраванне грамадствам і дачыненні паміж людзьмі грунтуюцца на юрыдычных законах, якія з'яўляюцца выяўленнем волі грамадства і служаць яго інтарэсам.

**Партыя беларускіх сацыял-дэмакратаў** сёння імкнецца выконваць тры функцыі: ліберальную, уласна сацыял-дэмакратычную і патрыятычную.

Ліберальная функцыя Грамады заключаецца ў тым, што мы бяром дзейсны ўдзел у лібералізацыі эканамічнага жыцця краіны.

Як сацыял-дэмакраты, мы адначасова выказваемся за абарону інтарэсаў і правоў чалавека разумовай і фізічнай працы. Мы бяром дзейсны ўдзел у дэмакратызацыі грамадства, баронім палітычныя, эканамічныя культурныя і экалагічныя правы чалавека.

Патрыятычная функцыя Грамады ў тым, што мы абараняем суверэнныя правы народа Беларусі, Беларускай дзяржавы, яе незалежнасці і нейтральнасці.

**Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада дзейнічае на прынцыпах:**

—раўнапраўя ўсіх сяброў Грамады;

—выбарнасці ўсіх кіруючых партыйных органаў;

—справаздачнасці выбарных органаў;

—галоснасці ў рабоце арганізацый Грамады і яе выбарных органаў усіх узроўняў;

—гарантыі правоў меншасці ў Грамадзе, у тым ліку і шляхам стварэння фракцый.

**Сябрам БСДГ** можа быць любы грамадзянін Рэспублікі Беларусь незалежна ад прафесіі ды сацыяльнага становішча, нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту, не належыць да іншых палітычных партый.

**Сяброўства ў Грамадзе** несумяшчальнае з экстрэмізмам, з прапагандай таталітарызму, нацыянальнай і класавай выключнасці, з рэлігійнай і ідэйнай нецярпімасцю.

Дадатковую інфармацыю пра БСДГ можна атрымаць у штабкватэры партыі: **220026, Менск, Партызанскі праспект, 83—53, тэл. 46-46-91, лісты можна слаць на адрас: 220026, Менск а/с 129.**

## «Уздоўж берага» разам з мастаком




Так выглядае каталог новае выставы Алеся Мемуса, якая адкрываецца ў абласным цэнтры народнай творчасці, у доме 35-а, што на Ратушнай плошчы.

Набыць яго зможа кожны прыхільнік творчасці мастака, а ён прапануе віцяблянам і гасцям горада новую калекцыю акварэляў, што экспанавалася на пачатку года ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі ў Менску пад назвай Акварэлі з цыклу «Сведкі». У Віцебску выстава набыла новы назоў—«Уздоўж берага». Ну, а сэнс «метамарфозы» аўтар абяцае растлумачыць пад час вернісажу.

P.S. **Падрабязныя звесткі аб часе работы выставы на афішах.**

## Краязнавец пра краязнаўца

У серыі «Нашы славутыя землякі» выдавецтва «Полымя» выпусціла кнігу віцебскага краязнаўцы А. Падліпскага пра земляка, даследчыка тутэйшае даўніны А. Сапунова. Твор мае назоў «Летапісец з Віцебшчыны» і надрукаваны пяцітысячным тыражом.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## У кінатэатрах горада з 4 па 10 кастрычніка

### «БЕЛАРУСЬ»

**«Жывы шчыт»** (ЗША). 9.40 (толькі 10 кастрычніка), 11.30, 13.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40.
**«Дагары нагамі»** (Расія, малая зала). 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
Аўтаадказчык **1-40-28.**

### «СПАРТАК»

**«Урга—тэрыторыя кахання»** (Францыя, Расія). 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.45, 21.40.
Аўтаадказчык **36-51-21.**

### «КАСТРЫЧНІК»

**«Як бы там ні было»** (ЗША). 11.30, 13.10, 14.50, 16.35, 18.20, 20.00.
Аўтаадказчык 36-55-44.

### «БРЫГАНЦІНА»

**«Маладая ледзі Чатэрлей»** (ЗША). 13.45, 15.30, 17.15, 19.20.
**«Маскоўскае каханне»** (Расія). 15.15, 16.40, 18.15, 19.40, 21.15.
**«Падводныя бярэты».** 10.40, 12.15, 13.40.
**«Сябрам не здраджваюць».** 10.00, 11.15, 12.30.
Аўтаадказчык **1-81-79.**

### «МІР»

**«Залатая цясніна»** (ЗША). 10.15 (толькі 4, 9 і 10 кастрычніка), 11.55, 13.35, 15.15, 16.55, 18.35, 20.10. **«Кашмар на вуліцы Вязаў-ІІ»** (ЗША). 11.00, 12.35, 14.10, 15.45, 17.20, 18.55, 20.30.
Аўтаадказчык 36-22-23.

### «УСХОД»

**«Каляды ў Боба»** (Францыя). 16.00, 19.40.
**«Шына—каралева джунгляў»** (ЗША). 14.00, 17.40.
Аўтаадказчык **33-04-93.**



## «Мова—душа народа»

Яшчэ адзін рэлігійны часопіс —«Вера і жыццё»—з'явіўся ў Беларусі. Заснавальнік, каталіцкі Касцёл, зрабіў выданне беларускамоўным, але частка ягоных матэрыялаў падаецца ў паралельным перакладзе на польскую ды рускую мовы. Прыклад варты пераймання тымі, хто так многа гаворыць пра адраджэнне духоўнасці, забываючы аб душы народнай.

**К. СТУСЬ.**



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

Галоўны рэдактар Барыс **ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Валянцін АРЛОЎ
Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ
Васіль ІГНАЦЕНКА
Юры ЛАЎРЭНАЎ
Ларыса МІХНЕВІЧ
Міхась ПАЎЛАЎ
Уладзімір ПЛЕШЧАНКА
Леанід ТАМАРОВІЧ
Ігар ЦІШКІН

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.

Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.

Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Выдаецца з кастрычніка 1991 г.

Выходзіць штотыднёва па сярэдах

Нумар падпісаны да друку 30.09.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Кошт 5 руб.**

## *Праграма мастацкіх фільмаў на частку тыдня*

### Панядзелак, 4 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**
9.15. «Цётка Маруся». 1-я і 2-я серыі.
14.45. «Адпачынак у верасні». 1-я і 2-я серыі.
**Канал «Астанкіна»**
8.40 і 20.40. «Дробязі жыцця».
**Канал «Расія»**
10.05. «Службовы раман». 1-я і 2-я серыі.
13.25. «Кароль-Драздавік».
19.25. «Крымінальныя гісторыі» (ЗША).
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «Зязюльчыны дзеці».
12.05. «Зламаная падкова».
21.00. «Чалавек—земляны арэх».

### Аўторак, 5 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**
13.40. «Сустрэчы».
21.45. «Дзяжурная аптэка».
**Канал «Астанкіна»**
8.40 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Блуканне па пакутах». 6-я серыя.
21.40. «Доктар Папоць» (Францыя).
**Канал «Расія»**
11.00. «Асенні марафон».
13.25. «Валянціна».
19.25. «Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
11.35. «Настаўнік спеваў».
21.00. «На парозе ночы» (ЗША). 7-я і 8-я серыі.

### Серада, 6 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**
9.30. «Дзяжурная аптэка».
13.40. «Людзі і дэльфіны».
21.45. «Стэла» (ЗША).
**Канал «Астанкіна»**
8.40 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Блуканне па пакутах». 7-я серыя.
**Канал «Расія»**
11.05. «Два білеты на дзённы сеанс».
19.25. «Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
8.05. «На парозе ночы» (ЗША). 7-я і 8-я серыі.
11.55. «Дом, у каторым я жыву».
14.40. «Чароўная спадчына».

### Чацвер, 7 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**
8.25. «Раз на раз не прыходзіцца».
13.40. «Людзі і дэльфіны». 3-я серыя.
**Канал «Астанкіна»**
8.45 і 18.10. «Проста Марыя».
11.20. «Блуканне па пакутах». 8-я серыя.
12.40. «Небяспечны паварот».
21.15. «Ягор Булычоў і іншыя».
**Канал «Расія»**
11.00 і 19.25 «Санта-Барбара».
**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**
11.55. «Шлюб з выхаднымі» (Венгрыя).
21.00. «На парозе ночы» (ЗША). 9-я і 10-я серыі.

## Вясёлы глобус

Паліцэйскі спыняе аўтамабіль, якім кіруе дама, і пытае ў яе:
—Хіба вы не ведаеце, што абазначае шчыт з надпісам «СТОП»?
Дама:
—Не маю ані найменшага ўяўлення. Але вы можаце запытаць пра гэта ў прахожых.

***

Вучань:
—Пан настаўнік, я лічу несправядлівым, што вы паставілі мне «адзінку» за сачыненне.
Настаўнік:
—Я згодны з табой наконт несправядлівасці. Але, на жаль, не існуе больш нізкай адзнакі.



## Адзінае выйсце?

Віцяблянін Мікалай Д. распачаў хадайніцтва перад пасольствам ЗША аб прызначэнні яму прыстанішча як уцекачу з краіны, дзе прыціскаюцца правы чалавека. Матывацыя—адмова Вярхоўнага Савета Беларусі ў правядзенні рэферэндуму, за які выказаліся 442 тысячы чалавек, у тым ліку і сп. Мікалай.

**АМБАСАДАР.**